# ЗВЯЗДА

5 студзеня 1996 г. пятніца, № 3 (22806)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 700 рублёў


## РОЗГАЛАС

### МІНІСТЭРСТВА ГАНДЛЮ РЭКАМЕНДУЕ Ў 1996 ГОДЗЕ ЗНІЗІЦЬ АДПУСКНУЮ ЦАНУ НА МЯСА ПТУШКІ

Мяркуючы па ўсім, мяса птушкі ў наступіўшым годзе... патаннее. Ва ўсякім разе, такія рэкамендацыі — аб зніжэнні адпускной цаны на птушку — дадзены «Белптушкапрому» з боку Міністэрства гандлю. Гаворка ідзе аб невялікай скідцы — усяго на тысячу рублёў за кілаграм, але для пакупнікоў гэта «выльецца» ў больш істотную суму, паколькі гандлёвым прадпрыемствам рэкамендавана знізіць нацэнку на мяса птушкі пры аптовых закупках на 2 працэнты, пры розгнічных — на 5.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

### 27 ЧАЛАВЕК ПАЦЯРПЕЛІ АД МАРАЗОЎ У СВЯТОЧНЫЯ ДНІ Ў СТАЛІЦЫ

Як паведамілі ў бальніцы хуткай дапамогі Мінска, у перыяд з 31 снежня па 2 студзеня з абмарожаннямі сюды паступіла 27 чалавек. Адзінаццаць з іх шпіталізаваны ў апёкавыя аддзяленні бальніцы. Астатнім пацярпеўшым была аказана хуткая медыцынская дапамога і выпісаны накіраванні на далейшае амбулаторнае лячэнне ў паліклінікі па месцы жыхарства. Са шпіталізаваных шасцёра былі дастаўлены ў бальніцу ў нецвярозым стане.

Сярод пацярпеўшых — трынаццацігадовы навучэнец адной з мінскіх школ, якога даставілі з абмарожаннем у стане алкагольнага ап'янення.

Дарэчы, тэмпература паветра ў згаданыя дні апускалася да адзнакі мінус 23—25 градусаў Цэльсія.

**Марат УРУБЛЕЎСКІ, БелаПАН.**

*Ціха ўсё была на небе, зямлі і на сэрцы...*
**Максім БАГДАНОВІЧ.** Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.

## ПРЭЗІДЭНТ І ДЭПУТАТЫ АБМЕРКАВАЛІ ПЫТАННІ ПАДРЫХТОЎКІ ДА ПЕРШАЙ СЕСІІ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 3 студзеня прадоўжыў кансультацыі з дэпутатамі Вярхоўнага Савета XIII склікання.**

На сустрэчы з кіраўніком дзяржавы, ініцыіраванай дэпутатамі, якія не ўвайшлі ў партыйныя фракцыі, прымалі ўдзел старшыні абласных выканаўчых камітэтаў і Мінскага гарвыканкома. Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, на ёй абмяркоўваліся пытанні падрыхтоўкі і правядзення першай сесіі, пачатак якой намечаны на 9 студзеня. Былі разгледжаны пытанні фарміравання мэтазгоднага парадку дня сесіі, які дасць магчымасць з першых дзён яе работы пачаць разгляд буйных дзяржаўных задач. Дэпутаты абмяркоўвалі канцэптуальныя прынцыпы рэгламенту Вярхоўнага Савета, які б дазволіў эканоміць дзяржаўныя сродкі і прадукцыйна спалучаць работу народных прадстаўнікоў у парламенце і ў выбарчых акругах.

Абмяркоўваліся таксама падыходы па фарміраванню кіруючых органаў Вярхоўнага Савета, яго структур і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння.

Удзельнікі сустрэчы выказаліся за безумоўнае ўмацаванне супрацоўніцтва ўсіх галін улады на канструктыўнай аснове і падтрымалі дзеянні Прэзідэнта, накіраваныя на ўмацаванне дзяржаўнасці і стабільнасці ў Беларусі.

Сустрэча завяршылася заявай дэпутатаў аб неабходнасці стварэння дэпутацкай фракцыі, мэтай якой павінна стаць ідэя кансалідацыі палітычных і грамадскіх сіл Беларусі, якія выступаюць за стабільнасць і згоду ў рэспубліцы, рэалізм эканамічных рэформаў і пераадоленне крызісных з'яў. Каардынатарам фракцыі, куды далі згоду ўвайсці 63 дэпутаты, выбраны дэпутат Уладзімір Грыгор'еў — генеральны дырэктар Віцебскага вытворчага аб'яднання «Даламіт».

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 526

### АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ ПРАГРАМЫ РАЗДЗЯРЖАЎЛЕННЯ І ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ДЗЯРЖАЎНЫХ АБ'ЕКТАЎ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў РЭСПУБЛІКАНСКАЙ УЛАСНАСЦІ, НА 1996 ГОД

У мэтах удасканалення працэсаў раздзяржаўлення і прыватызацыі ў Рэспубліцы Беларусь **пастанаўляю:**

1. Зацвердзіць Праграму раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, на 1996 год (прыкладаецца).

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць выкананне ўказанай Праграмы, а таксама ажыццявіць іншыя мерапрыемствы, накіраваныя на павышэнне эфектыўнасці эканамічных рэформаў у Рэспубліцы Беларусь.

2. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*30 снежня 1995 г., г. Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№520*

### Аб прадаўжэнні тэрміну паўнамоцтваў народных засядацеляў

Прадоўжыць да 1 ліпеня 1996 г. паўнамоцтвы народных засядацеляў абласных, Мінскага гарадскога, раённых (гарадскіх) судоў, Беларускага ваеннага суда і міжгарнізонных ваенных судоў, выбраных ва ўстаноўленым парадку ў 1990—1992 гадах.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*29 снежня 1995 г., г.Мінск.*

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ ВЫКАЗАЎ ГАТОЎНАСЦЬ ПРАЦАВАЦЬ З ЭКС-ПРЭМ'ЕРАМ В. КЕБІЧАМ, ЯКОГА ФРАКЦЫЯ «ЗГОДА» ВЫЛУЧАЕ НА ПАСАДУ СПІКЕРА НОВАГА ПАРЛАМЕНТА

3 студзеня ў другой палове дня адбылася шасцігадзінная сустрэча Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з прадстаўнікамі цэнтрысцкай дэпутацкай фракцыі «Згода» (у яе аб'ядналіся кіруемыя Анатолем Красуцкім і Віктарам Цярэшчанкам групы беспартыйных дэпутатаў, якія мелі намер сфарміраваць дзве самастойныя фракцыі).

Як паведаміў БелаПАН адзін з сукаардынатараў фракцыі Віктар Цярэшчанка, падчас сустрэчы абмяркоўваўся шэраг пытанняў, датычных Рэгламенту, структуры Вярхоўнага Савета, парадку дня першай сесіі і кадравай палітыкі. Прычым апошняму блоку пытанняў была ўдзелена асаблівая ўвага. Фракцыя, у састаў якой уваходзяць 62 дэпутаты, падчас галасавання пераважнай большасцю пры адным голасе «супраць» прыняла рашэнне аб вылучэнні на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета былога прэм'ер-міністра рэспублікі Вячаслава Кебіча. Па словах В. Цярэшчанкі, гэты выбар вызначылі такія якасці былога прэм'ера, як веданне эканомікі, палітыкі, сітуацыі ў народнай гаспадарцы і г. д. В. Цярэшчанка таксама паведаміў, што Прэзідэнт, у прынцыпе, пагадзіўся з выбарам фракцыі, адзначыўшы пры гэтым: «З гэтай кандыдатурай я мог бы працаваць». У той жа дзень фракцыя «Згода» вызначылася з каардынатарам — ім стаў былы партыйны функцыянер Уладзімір Грыгор'еў. Былі абраны таксама сем сукаардынатараў — ад кожнай з шасці абласцей рэспублікі і асобна ад горада Мінска. У гэты момант, паводле звестак БелаПАН, прадстаўнікі фракцыі «Згода» праводзяць кансультацыі з іншымі фракцыямі новага парламента, што ствараюцца, па пытанню магчымай каардынацыі сваіх рашэнняў пры выбары Старшыні Вярхоўнага Савета. Як паведаміў Анатоль Красуцкі, канчатковае рашэнне адносна кандыдатуры спікера фракцыя «Згода» прыме 7 студзеня.

**БелаПАН.**

*ЗАЦВЕРДЖАНА Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1995 г. № 526*

## ПРАГРАМА РАЗДЗЯРЖАЎЛЕННЯ І ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ДЗЯРЖАЎНЫХ АБ'ЕКТАЎ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў РЭСПУБЛІКАНСКАЙ УЛАСНАСЦІ, НА 1996 ГОД

Галоўная задача ў галіне раздзяржаўлення і прыватызацыі — павышэнне эфектыўнасці дзейнасці прадпрыемстваў і іншых суб'ектаў гаспадарання.

Мэтамі Праграмы раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, на 1996 год (далей — Праграма) з'яўляюцца:

стварэнне прадпрыемстваў, здольных максімальна павысіць эфектыўнасць вытворчасці на аснове сучасных метадаў кіравання і структурнай перабудовы;

прыцягненне дадатковых фінансавых рэсурсаў у бюджэт і для ажыццяўлення інвестыцый;

стварэнне ўмоў для рэалізацыі кожным грамадзянінам Рэспублікі Беларусь права на атрыманне часткі дзяржаўнай маёмасці;

пераўтварэнне дзяржаўных і арэндных прадпрыемстваў у юрыдычныя асобы, адаптаваныя да рыначных умоў (канкурэнтаздольныя на ўнутраным і знешнім рынках).

Асноўныя шляхі выканання Праграмы:

забеспячэнне публічнасці і справядлівасці ў працэсе прыватызацыі;

дыферэнцыраваны і абгрунтаваны падыход да аб'ектаў і спосабаў прыватызацыі;

актыўны ўдзел у прыватызацыі прадпрыемстваў іх працоўных калектываў;

забеспячэнне прыярытэтнага адчужэння аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці за грошы;

завяршэнне выдачы імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» у тэрміны, устаноўленыя заканадаўствам, і стварэнне ўмоў для іх выкарыстання;

прадастаўленне суб'ектам прыватызацыі аднолькавых умоў для ўдзелу ў прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў на аўкцыёнах і конкурсах;

прыняцце мераў па развіццю рынку каштоўных папер;

адчужэнне неэфектыўна выкарыстоўваемай маёмасці на конкурсах і аўкцыёнах за грошы;

накіраванне для продажу і абмену на імянныя прыватызацыйныя чэкі «Маёмасць» часткі акцый акцыянерных таварыстваў, створаных шляхам пераўтварэння дзяржаўных і арэндных прадпрыемстваў.

Для ўліку мясцовых асаблівасцей устанавіць, што прыватызацыя аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, ажыццяўляецца па ўзгадненню з мясцовымі выканаўчымі органамі, на тэрыторыі якіх размешчаны гэтыя аб'екты.

У мэтах павышэння эфектыўнасці вытворчасці прадугледзець перадачу ў давернае кіраванне юрыдычных і фізічных асоб акцый, што належаць дзяржаве.

Для забеспячэння дзейнасці рэфарміраваных прадпрыемстваў выкарыстаць ва ўстаноўленым парадку частку сродкаў, атрыманых ад прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў.

#### СТВАРЭННЕ АДКРЫТЫХ АКЦЫЯНЕРНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ Ў ПРАЦЭСЕ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАСНАСЦІ

Пераўтварэнне дзяржаўных і арэндных прадпрыемстваў у адкрытыя акцыянерныя таварыствы ажыццяўляецца органамі прыватызацыі па прапановах працоўных калектываў, узгодненых з галіновымі міністэрствамі ці іншымі цэнтральнымі органамі кіравання Рэспублікі Беларусь.

У выпадку рознагалоссяў у мэтазгоднасці раздзяржаўлення і прыватызацыі канкрэтных аб'ектаў рашэнне прымаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі.

Дзяржаўныя і арэндныя прадпрыемствы, што з'яўляюцца плацежаздольнымі, як правіла, пераўтвараюцца ў адкрытыя акцыянерныя таварыствы.

У адкрытыя акцыянерныя таварыствы пераўтвараюцца дзяржаўныя і арэндныя прадпрыемствы, маёмасць якіх адносіцца да рэспубліканскай уласнасці, з сярэднясписачнай колькасцю работнікаў, як правіла, не менш чым:

50 чалавек (у лясной прамысловасці, на транспарце, у бытавым абслугоўванні, гандлі і грамадскім харчаванні);

100 чалавек (у іншых галінах матэрыяльнай вытворчасці).

Заснавальнікам адкрытых акцыянерных таварыстваў, ствараемых на базе аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці, ад імя дзяржавы выступае Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі. Акрамя яго заснавальнікамі такіх акцыянерных таварыстваў могуць быць іншыя асобы, у тым ліку замежныя, якія з мэтай павелічэння статутных фондаў гэтых таварыстваў унеслі маёмасць і (ці) грашовыя сродкі, што ім належаць.

Заснавальнікамі акцыянерных таварыстваў могуць выступаць крэдыторы прадпрыемстваў, якія далі згоду на ўключэнне сум выдадзеных імі крэдытаў у статутныя фонды ствараемых акцыянерных таварыстваў.

Дапускаецца перадача акцый у залог для забеспячэння абавязацельстваў перад крэдыторамі.

Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі ажыццяўляе валоданне і распараджэнне акцыямі, перадае іх у кіраванне міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання, што назначаюць работнікаў, якія прайшлі спецыяльную падрыхтоўку, прадстаўнікамі дзяржавы ў органах кіравання створаных адкрытых акцыянерных таварыстваў. Гэтыя прадстаўнікі, як правіла, працуюць на вызваленай аснове, нясуць адказнасць за захаванасць і мэтавае выкарыстанне маёмасці таварыстваў нараўне з кіраўнікамі таварыстваў.

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№10*

### Аб увекавечанні памяці народнага мастака СССР Героя Сацыялістычнай Працы Азгура Заіра Ісакавіча

У мэтах увекавечання памяці народнага мастака СССР Героя Сацыялістычнай Працы Азгура Заіра Ісакавіча **пастанаўляю:**

1. Міністэрству культуры і Мінскаму гарвыканкому стварыць на базе былой творчай майстэрні З. І. Азгура ў доме №4 па Трактарнаму завулку ў г. Мінску мемарыяльны музей З. І. Азгура — філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

2. Прысвоіць імя З. І. Азгура Сенненскай сярэдняй школе №1 і ў далейшым называць яе: Сенненская сярэдняя школа №1 імя З. І. Азгура.

3. Мінскаму гарвыканкому і Міністэрству культуры ўстанавіць у 1996 годзе помнік на магіле З. І. Азгура на Маскоўскіх могілках у г. Мінску.

4. Віцебскаму аблвыканкому:

вырашыць пытанне аб прысваенні імя З. І. Азгура адной з вуліц г. Сянно;

устанавіць у 1996 годзе мемарыяльную дошку на будынку былога Віцебскага мастацкага тэхнікума (г.Віцебск, вул. Суворава, 3), у якім вучыўся З. І. Азгур.

5. Фінансаванне расходаў, звязаных з праектаваннем, стварэннем і ўстаноўкай надмагільнага помніка і мемарыяльнай дошкі З. І. Азгуру, ажыццявіць за кошт рэзервовага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*4 студзеня 1996 г., г. Мінск.*

## РАСПАРАДЖЭННІ ПРЭЗІДЭНТА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў распараджэнне аб стварэнні камісіі па распрацоўцы форменнага адзення для ваеннаслужачых, а таксама правілаў яго нашэння і ўдакладнення нормаў забеспячэння. Старшынёй камісіі назначаны М.М.Шалеў, загадчык сектара апарату Савета бяспекі рэспублікі.

Распараджэннем Прэзідэнта краіны створана камісія для правядзення экспертызы сапраўднасці залатых манет і законнасці мерапрыемстваў па іх набыццю Ашчадным банкам. Старшынёй камісіі назначаны У.М.Пагарэцкі, галоўны спецыяліст апарату Савета бяспекі.

**БЕЛТА.**

## СКАНДАЛЫ

### ЯК МЫЛЬНЫЯ БУРБАЛКІ НЕКАТОРЫЯ ДЗЯЛКІ ПЕРАТВАРАЮЦЬ У «ЖЫВЫЯ» ДОЛАРЫ

Сёння, бадай, мала каго здзівіш паведамленнем пра тое, што эканамічная злачыннасць развіваецца надзвычай хуткімі тэмпамі. І ўсё ж факты, што прыводзіліся ў выступленні выконваючага абавязкі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Васіля Капітана на нядаўнім семінары па праблемах узмацнення пракурорскага нагляду за захаваннем законаў у сферы эканомікі, не могуць не хваляваць. Асабліва тыя, што датычацца шматлікіх злоўжыванняў у сферы выкарыстання банкаўскіх крэдытаў.

Недасканаласць заканадаўства, нядобрасумленнасць работнікаў банкаў прыводзяць да таго, што шматлікія крэдыты служаць свайго роду спосабам для прысваення вялізных сум грошай. Некаторыя кліенты банкаў, карыстаючыся тым, што адсутнічае належны кантроль за выдачай крэдытаў, умудраюцца атрымаць іх па некалькі разоў. Пры гэтым наступныя крэдыты выкарыстоўваюцца для пагашэння працэнтных ставак за папярэднія сумы. У выніку дзяржава, грамадства нясуць выдаткі, а нярэдка крэдыты наогул не вяртаюцца.

Так, у ліпені 1994 года прыватнае прадпрыемства «Знештрансінвестсервіс» заключыла крэдытны дагавор на 300 тысяч долараў з камерцыйным банкам «Беларусь». Згодна з дагаворам, атрыманыя грошы прызначаліся для аплаты за пральны парашок. Аднак гэтыя сродкі фірма скарыстала зусім на іншыя мэты. Праз нейкі час той жа кантракт на набыццё пральнага парашку кампанія «Знештрансінвестсервіс» скарыстала для атрымання крэдыту ўжо ў Ашчадным банку на суму 500 тысяч долараў. Цяпер многія дзіву даюцца, як магла фірма, статутны фонд якой складае некалькі дзесяткаў тысяч рублёў, атрымаць такую велізарную суму? Што датычыцца атрыманых долараў, то яны бясследна зніклі, як і кіраўнікі самой фірмы. Словам, калі падобным чынам будуць дзейнічаць і іншыя банкі, то ніякіх замежных крэдытаў не хопіць, каб паставіць на ногі нашу эканоміку. Усе гэтыя сродкі знікнуць у «чорных дзірках» безгаспадарчасці.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора.**

### АШЧАДБАНК ТРАПІЎ У ЦІСКІ ФЕМІДЫ. СПРАВА ПАХНЕ ПОРАХАМ?..

Бадай гэтай, адной з самых апошніх навін з жыцця банкаў, па цяперашнім часе наканавана стаць сенсацыйнай. Усім вядома тое трапяткое пачуццё амаль кожнага, якое мы зведваем у дачыненні да банкаў. Яны сталі непазбежным атрыбутам цікаўнасці нашага насельніцтва: не памылімся, калі скажам, што сёння толькі мізэрная колькасць жыхароў ніяк не звязана з гэтымі фінансавымі ўстановамі рэспублікі. Таму скандал, які нараджаецца пасля праверкі дзейнасці Ашчадбанка Беларусі (дарэчы, праверка яго вялася яшчэ да аб'яднання з «Беларусбанкам»), гатовы атрымаць шырокі рэзананс. Прынамсі, ужо той факт, што існуе пастанова аб узбуджэнні крымінальнай справы па матэрыялах праверкі Ашчаднага банка ў дачыненні да службовых асоб і яго кіраўніцтва, нікога абыякавым не пакіне.

Не сакрэт, што грамадства ўжо даўно было насычана рознага роду чуткамі вакол вядзення спраў у гэтым адным з буйнейшых банкаў краіны. Як аказалася пасля праверкі, чуткі ўсё ж нейкую глебу пад сабой мелі. У прыватнасці, згодна з актам праверкі спецыяльна створанай па ўказу Прэзідэнта камісіі, у парушэнне ўстаноўленага парадку крэдытавання і рашэнняў Нацбанка Ашчадным банкам усё ж дапускалася крэдытаванне камерцыйных структур, якія не займаліся вытворчасцю тавараў народнага спажывання. Так, напрыклад, са жніўня пазамінулага года па ліпень 1994-га было выдадзена такіх крэдытаў на агульную суму 9,8 мільёна ўмоўных долараў ЗША. Прычым большая частка такіх крэдытаў у банк не вернута. Гэта адна з хібаў, якія выявіліся. Ёсць і іншыя...

Каб атрымаць каментарый наконт справы па Ашчадбанку, карэспандэнт «Звязды» звязаўся з начальнікам аддзела па нагляду за следствам у органах пракуратуры старшым саветнікам юстыцыі Іванам Зуем, які прымаў пастанову аб узбуджэнні крымінальнай справы. Як паведаміў газеце Іван Канстанцінавіч, калі меркаваць па даведцы, прадстаўленай камісіяй, факты праверка выявіла сур'ёзныя. Зразумела, каб даць ацэнку канкрэтным дагаворам і фактам, трэба весці следства, што немагчыма без узбуджэння крымінальнай справы. Такім чынам, аб'ектыўную ацэнку ўсім дзеянням службовых асоб і кіраўніцтва Ашчадбанка дасць следства.

Сцяпан Міхальчук, начальнік Следчага ўпраўлення пракуратуры рэспублікі, якому накіравана крымінальная справа для арганізацыі папярэдняга расследавання, прызнаўся, што, калі зыходзіць з юрыдычных патрабаванняў, акт праверкі аказаўся «сыраватым»: тлумачэнні наконт прэтэнзій увогуле да банка або кіраўніцтва апошняга ці галоўнага бухгалтара — адсутнічаюць. Тым не менш, гэта зусім не азначае, што акт будзе накіраваны на дапрацоўку.

Дзмітрый Шаткін, намеснік старшыні праўлення новаўтворанага ААБ «Беларусбанк», у прыватнасці, адзначыў, што акт праверкі Ашчаднага банка не чытаў. Аднак звярнуў увагу на тое, што ААБ «Беларусбанк» ніякага дачынення да выяўленых у былым банку фактаў не мае: яны мелі месца яшчэ да аб'яднання.

Між тым, Дзмітрый Юр'евіч сказаў, што пытанні па дзейнасці Ашчадбанка сапраўды ўзнікаюць: так, напрыклад, усплываюць вэксалі, па якіх спісваліся грошы, а ў балансе банка яны адсутнічаюць. Прычым сумы немалыя.

На жаль, атрымаць каментарый непасрэдна ад тых адказных асоб Ашчадбанка, якім прад'яўляюцца абвінавачанні, нам не ўдалося. Але ў любы час, пры жаданні, яны могуць данесці да чытачоў і свае тлумачэнні апошніх падзей.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### МЫ ЗГОДНЫЯ І НА ГРАМАТУ

Вышэйшую ўзнагароду вобласці — Ганаровую грамату — устанавіў Магілёўскі аблвыканком. Яе могуць быць удастоены як фізічныя, так і юрыдычныя асобы, прычым не толькі Прыдняпроўя, але і рэспублікі, і нават іншых дзяржаў.

Трэба толькі засведчыць свае заслугі перад рэгіёнам у развіцці эканамічнай, сацыяльнай або духоўнай сферы.

Разам з граматай прадугледжана выдача прэміі ў памеры — 10 мінімальных зарплат. Дробязь, але прыемна.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

### «ЗАЕЧАЙ КАПУСТЫ» БУДЗЕ БОЛЬШ

Згодна з апошнімі данымі ўпраўлення транспарту і сувязі Мінгарвыканкома, за лістапад у сталічным грамадскім транспарце было аштрафавана 32.400 «зайцаў». Дык вось, для гэтай катэгорыі пасажыраў ёсць цікавая навіна: у сувязі з павышэннем узроўню мінімальнай заработнай платы ў рэспубліцы да 100 тысяч рублёў павялічаны і памер штрафу за безбілетны праезд да 10 тысяч рублёў.

Так што аматарам праехаць «за так» неабходна рыхтаваць ужо менавіта такую суму для сустрэчы з кантралёрамі, колькасць якіх, дарэчы, у апошні час значна ўзрасла.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## АСОБЫ 1995 ГОДА

### НА ПАЛІТЫЧНЫМ НЕБАСХІЛЕ ЗАПАЛЬВАЮЦЦА НОВЫЯ ЗОРКІ

У 1994 годзе «Звязда», вызначаючы сузор'е асоб у беларускай дзяржаве, у намінацыі «Палітык года» назвала імя Аляксандра Лукашэнкі. І гэта зразумела. Яго імклівы ўзлёт, падобна да метэора, на палітычны Алімп сапраўды стаў падзеяй неардынарнай і самай прыметнай у грамадскім жыцці, яго ўпэўнена ўспыхнуўшая зорка адразу засланіла сваім святлом бляск іншых зорак на палітычным небасхіле рэспублікі.

Сёння традыцыйна вяртаючыся да вызначэння палітыка года, мы не сталі аддаваць лаўры славы зноў Прэзідэнту. Хаця ён і застаецца паранейшаму найбольш каларытнай і ўплывовай асобай. Не трэба забываць, што сам статус кіраўніка дзяржавы не дазваляе Аляксандру Лукашэнку адыходзіць у цень. Тым больш, што на працягу большай часткі мінулага года Прэзідэнт заставаўся фактычна адзіным суб'ектам палітыкі і ўлады, паколькі Вярхоўны Савет існаваў толькі дэ-юрэ. Таму гэтая асоба, вядома, знаходзіцца ў асаблівых умовах у параўнанні з іншымі палітыкамі, і яе можна хіба разглядаць толькі па-за конкурсам.

Тым часам на нашым палітычным небасхіле наканавана час ад часу з'яўляцца новым зоркам. І падставай для гэтага, дарэчы, стала ў тым ліку і абранне новага парламента Беларусі. Вось тут яны ўжо і пачалі запальвацца, і, я ўпэўнены, што год 1996 адкрые нам яшчэ нямала новых добрых імёнаў. Сёння ж размова пакуль толькі пра два: адкрыццём года 1995-га ў якасці палітыкаў сталі Станіслаў Багданкевіч і Сямён Шарэцкі.

Першы, пакінуўшы пасаду старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі, перанёс сваю дзейнасць з эканамічнай глебы выключна на палітычную. І гэтая змена стала плённай як для яго, так і для тых людзей, з якімі ён стаў супрацоўнічаць. Адразу ж узначаліў новую палітычную партыю, якая ў надзвычай кароткі тэрмін набыла заўважную папулярнасць сярод выбаршчыкаў, аб чым яскрава сведчаць вынікі выбараў. Безумоўна, трэба аддаць належнае таму, што Аб'яднаная грамадзянская партыя была створана на аснове ўжо дзвюх існуючых палітычных арганізацый, але менавіта фігура С.Багданкевіча стала кансалідуючай і ў значнай меры надала палітычную вагу АГП. Сёння гэтая арганізацыя мае ўжо сфарміраваную парламенцкую фракцыю «Грамадзянская дзея», лідэрам якой, напэўна, стане сп. Багданкевіч. У яе, як вядома, увайшлі дэпутаты некаторых іншых палітычных арганізацый, а таксама некалькі незалежных дэпутатаў, не абцяжараных партыйнай прыналежнасцю. У гэтым таксама праяўляюцца кансалідуючыя рысы фігуры былога галоўнага банкіра краіны. Асоба Багданкевіча, як бы ні адносіліся да яе палітычныя сапернікі, праявіцца яшчэ больш на працягу дзейнасці парламента. Фракцыя «Грамадзянская дзея» займае ў заканадаўчым органе правацэнтрысцкія пазіцыі, а пры адсутнасці прадстаўнікоў правага накірунку мае шанцы стаць парламенцкай апазіцыяй. Да таго ж, калі ўлічыць прафесіяналізм Багданкевіча, яго вопыт, магчымасць кампрамісу і зразумелае жаданне прадстаўнікоў іншых фракцый будаваць у Вярхоўным Савеце цывілізаваныя адносіны і зрабіць заканадаўчы орган перш за ўсё прафесіянальным, то можна нават прагназіраваць, што ў хуткім часе сп. Багданкевіч можа стаць адным з намеснікаў спікера беларускага парламента.

Сямён Шарэцкі таксама ўвайшоў у беларускі палітычны істэблішмент упэўненым, рашучым крокам.

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

### Аб першым пасяджэнні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў паведамляе, што першае пасяджэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання адбудзецца 9 студзеня 1996 года ў 10 гадзін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

### Да ведама дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання

Рэгістрацыя дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія прыбудуць на першае пасяджэнне, будзе праводзіцца 8 студзеня 1996 года з 9 да 20 гадзін, 9 студзеня — з 8 да 9 гадзін 30 хвілін у Доме ўрада (фае залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь).

Месца пражывання дэпутатаў Вярхоўнага Савета — гасцініца «Мінск».

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 4 студзеня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11450 | 11650 | 7900 | 8100 | 2.25 | 2.45 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11450 | 11650 | 7800 | 8100 | 2.20 | 2.45 | |
| Белзнешэканомбанк | 11300 | 11610 | 7700 | 8100 | 2.00 | 2.43 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11500 4700 | 11650 4840 | 7900 | 8100 | 2.39 | 2.46 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11450 | 11650 | 7750 | 8100 | 2.10 | 2.48 | 067 |
| Народны банк | 11500 | 11620 | 7880 | 8000 | 2.30 | 2.40 | 238-610 |
| «Алімп» | 11550 | 11650 | 7880 | 8000 | 2.41 | 2.47 | 508-556 |
| Ф-л №1 АКБ «Алімп» | 11550 | 11650 | 7900 | 8100 | 2.35 | 2.45 | 291-646, 067 |
| ФФФ | 11400 | 11600 | 7700 | 8000 | 2.20 | 2.45 | |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 8024.56 | | | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4640 | | 3242.94 | | 100 бел.р.39.00 | | |

* — Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік

** — Аперацыя праводзіцца толькі за безнаяўны разлік

*** — Аперацыя з валютай больш за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах

## ПАВЕДАМЛЕННЕ Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў

### Аб выніках паўторных выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь дваццаць другога склікання, якія адбыліся 29 лістапада і 10 снежня 1995 года

Згодна з паведамленнямі абласных і Мінскай гарадской тэрытарыяльных выбарчых камісій аб выніках паўторных выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь дваццаць другога склікання, якія адбыліся 29 лістапада і 10 снежня 1995 года, Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў інфармуе:

Паўторныя выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь дваццаць другога склікання праводзіліся ў 3251 выбарчай акрузе.

У першым туры галасавання выбары адбыліся ў 2479 акругах, што складае 76,3 працэнта ад агульнай колькасці выбарчых акруг.

Другі тур галасавання паўторных выбараў праводзіўся ў 668 выбарчых акругах. Выбары адбыліся ў 384 акругах, што складае 57,5 працэнта ад колькасці выбарчых акруг, дзе праводзіўся другі тур галасавання.

У выніку двух тураў галасавання паўторных выбараў выбрана ў сельскія Саветы 913 дэпутатаў, або 94,4 працэнта ад іх вызначанай колькасці, у пасялковыя Саветы — 174, або 87,0 працэнта, у гарадскія (гарадоў раённага падпарадкавання) Саветы — 33, або 64,7 працэнта, у гарадскія (гарадоў абласнога падпарадкавання) Саветы — 433, або 44,0 працэнта, у раённыя Саветы — 562, або 82,5 працэнта, у абласныя Саветы — 146, або 40,0 працэнта. У Мінскі гарадскі Савет выбраны 22 дэпутаты, або 26,2 працэнта ад агульнай колькасці дэпутатаў.

Такім чынам, дзве трэці дэпутатаў, неабходныя для склікання першых сесій Саветаў, выбраны: ва ўсіх раённых і сельскіх Саветах, у 82 з 86 пасялковых Саветаў, або 95,3 працэнта гэтых Саветаў; у 6 з 7 гарадскіх (гарадоў раённага падпарадкавання) Саветаў, або ў 85,7 працэнта, у 18 з 37 гарадскіх (гарадоў абласнога падпарадкавання) Саветаў, або ў 48,6 працэнта; ва ўсіх абласных Саветах, акрамя Гродзенскага абласнога Савета.

Паведамленні аб выніках выбараў па кожнай акрузе і спісы выбраных дэпутатаў абласных, раённых, гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў дэпутатаў апублікаваны тэрытарыяльнымі выбарчымі камісіямі.

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ

Кабінет Міністраў пастанавіў адобрыць і накіраваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь для прадстаўлення на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Рэспублікі Малдова аб гарантыях правоў грамадзян у галіне пенсіённага забеспячэння, падпісанае ў г. Кішынёве 12 верасня 1995 г.

***

Кабінет Міністраў сваёй пастановай зацвердзіў Палажэнне аб дзяржаўным прабірным наглядзе.

Прызнаны страціўшым сілу пункт 1 Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 сакавіка 1992 г. №121 «Аб дзяржаўным прабірным наглядзе».

***

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб адабрэнні і прадстаўленні на ратыфікацыю пагаднення паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Расійскай Федэрацыі аб прадухіленні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад выплаты падаткаў у адносінах да падаткаў на даходы і маёмасць, падпісанага ў г. Маскве 21 красавіка 1995 г.

***

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб вызваленні А. К. Агрызава ад пасады намесніка міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ў сувязі з выхадам у адстаўку.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

